№ 91 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цана з перасылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—10 м. 80 фэн., на ½ году—5 м. 40 ф., на 3 месяцы — 2 м. 70 ф., на 1 мес. — 90 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі:
М. Стэфанская 23.

Цана абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літарамі — 25 фэніг.; дробныя абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 91 (287). Год III. Вільня, 19 лістапада 1918 г. Цана 10 фэн. (5 кап.)

## Переварот у Украіне.

КІЕУ. 16.XI. Нездаволеньне ў месьце ня сьціхае Казацкія сотні з кулямётамі разьяжджаюць па вуліцах. Яны належаць да самахвотнай арміі Дэнікіна, назначанага саюзьнікамі глаўнакамандуючым усімі расейскімі войскамі, для каторых у Кіеве ўтворана бюро набора. Адгэтуль едзе ваенная дэлегацыя ў Кацярынадар, каб весьці перагаворы аб агульных прадпрыемствах процi большэвікоў. Штаб Дэнікіна будзе пэўне перанесены ў Кіеў. Дэнікін апублікаваў войску адозву, ў каторай кажа, што час нанова разьвярнуць трохколёрны флаг Расеі. Рух разрастаецца і абхопливае ўсё далейшыя колы. Адсюль едзе камісія ў Яссы, дыплёматычны цэнтр саюзьнікаў на Усходзе. Першых атрадаў саюзьнікаў спадзяюцца ў Кіеве ўжо ў пачатку гэтага тыдня.

КІЕУ. (В.Т.Б.) 14 XI. Дзеля таго, што прыгатаваньне да парлямэнцкіх выбараў яшчэ ня скончана, украінскі нацыянальны саюз абымаючы ўсе левастаячыя ўкраінскія парты склікаў на 17 лістапада нацыянальны конгрэс, каб паказаць прад саюзьнікамі жаданьне ўкраінцаў.

БЭРЛІН. 18.XI. Кароль Каўцкі першы тэорэтык нямецкай соцыял дэмакратыі рэзка выступіў проціў большэвіцкіх прэтэнзый. „Выступаць цяпер з падобнымі дамаганьнямі, гэта значыла-б рабіць з Нямэччыны дом вар'ятаў.

БЭРЛІН. „Vorwärts“ наказавае, што пачатак перагавораў аб міры пачнецца не раней канца гэтага месяца. Скончацца гэныя перагаворы ў канцы студня. Пасьля гэтага пачнуцца перагаворы аб канчальным міры.

ПАРЫЖ. 18.XI. Краёвыя Рады Ліфляндыі, Курляндыі, Эстляндыі і Эзэля пастанавілі ўтварыць адзіны ўрад Балтыцкай дзяржавы.

БЭРЛІН. 18.XI. Салдацкая і работніцкая Рада на сваім апошнім засяданьні займалася ўсходнімі справамі, асабліва аб ачыстцы новастворaных дзяржаў у згодзе з іх урадамі.

БЭРЛІН. 18.XI. Нямецкі ўрад наказаў ураду рад, што ня хоча прадстаўніцтва большэвіцкага ўраду у Бэрліне.

ЦЮРЫХ. 17. XI. Прэзыдэнт Вільсон прыедзе ў Эўропу і будзе на апошнім засяданьні аб міры ў Вэрсалі.

БЭРЛІН. Дзеля выбараў у нацыянальны сэйм уся Нямеччына будзе падзелена на вокругі па 150 тысяч жыхараў. Выбары ў нацыянальны сэйм будуць і ў Нямецкай Аўстрыі.

ВІЛЬНЯ. Рэарганізацыя ваеннага ўпраўленьня Літвы ў цывільнае ўпраўленьне будзе ў гэтыя дні скончана. Потым будуць перадаваць цэнтральныя ўстановы літоўскаму ўраду. Нованазначаныя літоўскія міністры будуць працаваць у будынку ваеннага губэрнатарства разам з нямецкай уладай, каб прыглядзіцца да работы ў упраўленьні. Пасьля гэтага будзе фармальнае пераданьне спраў.

Дзеля заўважанага ў апошні час недаверыя жыхараў да так званых нямецкіх рублёў (обэр-ост) яшчэ раз напамінаецца, што гэтыя грошы гарантаваны Нямеччынай. Адзін рубель обэрост раўняецца 2 маркам і дзеля гэтага ніякай асновы да трывогі ня можа быць.

Салдацкая Рада наказавае, што ўсе гутаркі аб скорым выхадзе (кажуць за 2 тыдні) нямецкага войска няпраўдзівы ўжо дзеля таго, што такі хуткі выезд немагчымы, бо для вываза войска і ваенных матар'ялаў трэба 900 поездаў.

КОУНА. Салдацкая ваенная Рада наказавае, што ў Коўне між цывільнымі жыхарамі першае месца займаюць жыды дзеля свае лічбы і эканаміцкага палажэньня. У перагаворах аб самаўпраўленьні места жыды вельмі тактычны і ўжо блізу дайшлі ўгоды з ліцьвінамі, дык навет палякі былі прымушаны прыстаць на ўгоду. Гэткім парадкам угода між тутэйшымі нацыянальнасьцямі забаспэчэна.

КОУНА. З Белай наказаваюць, што палажэньне ў заходняй зямлі Буг, куды ўварваліся палякі, устаноўлена ранейшае. Нашае войска ўзноў заняло Янова і Міжырэчча, дык запасы краю для пракармленьня жыхараў і войска ў баспэчнасьці.

## АДОЗВА
## да жыхараў места Вільні.

Вялікія здарэньні сталіся ў гэтыя дні ў Нямеччыне. Нямецкі народ парваў з старой уладай і ўзяў сам у свае рукі сваю долю. Гэткім парадкам створана аснова для новай дзяржавы, каторая будзе адбудавана згодна з прынцыпамі волі і будзе адпавядаць даведзенай гэтымі днямі палітычнай сьпеласьці нямецкага народу.

Уплыў гэтых здарэньняў разыходзіцца і на занятыя землі. У Вільні і ў іншых мясцох утвораны Салдацкія Рады, каторыя працуюць у духу новага нямецкага ўраду. Як не цяжкая і адказная іх задача, яны ўсёж-ткі за кароткі час свайго быцьця паказалі сваю здольнасьць выпаўняць яе. Супакой і парадак захаваны ўсюды. Баспэчнасьць жыхараў гарантаваны і наперад. Рабункі і праступкі проціў маемасьці жыхараў мы ганім і праступнікі будуць пакараны.

Цяпер трэба сабраць усе сілы, каб у кароткі час пакінуць занятыя цяпер землі і адвезьці ў парадку войска. Мы заклікаем насяленьне места Вільні палягчыць нам нашую задачу тым, што яно ўзьдзержыцца ад усіх неразумных крокаў і ад усіх паступкаў, каторыя могуць перашкодзіць нашай задачы. Гэта ў яго ўласным інтарэсе. Чым спакайней і ў вялікшым парадку пакінены будзе край, тым барджджэй насяленьне будзе магчы ўзяць у свае рукі сваю долю. Мы стаём за добрыя адносіны да апошняе гадзіны нашага быцьця тут, каб гэткім парадкам прывесьці да згоды пярэчаньні ўтвораныя вайной.

Вайна скончана. Зара новага часу пачалася. Калі дух волі, зроджаны ёй стане агульным дабром усіх народаў, дык балей вайны ня будзе. У згодзе і прыязьні народы выпаўняць свае вялікія культурныя задачы і абаспэчаць сабе супакойнай працаю шчасьлівую будучыну. Аднак гэтую мэту можна будзе дапяць толькі напяцьцем усіх сіл.

**Салдацкая Рада Вільні**

*Вільня, 19 лістапада 1918.*

Шмат розных галін працы патрэбна дзеля адбудовы свайго гасударства. Патрэбна перш-на-перш нацыянальнае і палітычнае ўсьвядамленьне, трэба каб народ ведаў хто ён, знаў свае патрэбы і ведаў тую карысьць, якую яму дае сваё гасударства. Патрэбна так сама работа дыплёматычная. Але дыплёматычнае работы і ўсьведамленьня мала, трэба каб народ ня толькі захацеў мець сваё гасударства, трэба, каб ён яго арганізаваў і абараніў ад непрыяцеляў. Дзеля гэтага канечна патрэбна арганізацыя ўсяго народу і ўтварэньне свайго войска. Сьвядомы сваіх патрэб беларускі народ, будучы арганізаваны, ніколі не паслухае цёмнай агітацыі. Цяпер сьвядомая беларуская інтэлігенцыя павінна як найбарджджэй заняцца арганізацыяй шырокіх мас. Агітацыя сьвядомага беларуса найлягчэйшая і даступная ўсім. Мы ня маем патрэбы абяцаць сяляніну ніколі ня споўненых раяў, але павінны паказаць сяляніну тую вялікую карысьць, якую яму дае сваё гасударства. З сказанага простым зразумелым словам аб беларускім гасударстве народ зразумее, што толькі беларускае гасударства дасьць яму лепшае жыцьцё, што толькі пры ім запраўды дастане ён зямлю, што толькі тады ўсё багацьце нашага краю будзе аддавацца для беларускага народу, калі гэты народ сам будзе гаспадаром на сваёй зямлі. Яшчэ можа балей, чымся арганізацыя сялянскіх мас, патрэбна беларускае войска. У гэты час калі ўсе гаворацць аб праўдзе і справядлівасьці і разам з гэтым кожны, хто толькі можа, топча гэтую праўду і справядлівасьць, беларускаму народу патрэбна сіла, каторая абароніць яго законнае права на вольнае і незалежнае жыцьцё. Беларускі народ, над каторым гэтулькі зьдзекаваліся, над каторым сотні гадоў панавала і цяпер пануе фізычная сіла, можа быць пэўным сваёй вольнай незалежнай Беларусі, калі ўбачыць сваю фізычную аружную сілу. У войску-ж зьбяруцца ў кучу ўсе маладыя энэргічныя сілы, каторыя, будучы разам, найлягчэй паддаюцца нацыянальнай агітацыі. Варта спомніць, што беларускі рух у 1917 г. Найбалей пашырыўся, як за яго ўзялося беларускае войска.

Дык Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, пачаўшы арганізаваць сваё войска, стала на правільную дарогу. Людзі, каторым Рада Рэспублікі даручыла арганізаваць нацыянальную беларускую армію, ужо пачалі сваю работу і, як нам наказаваюць, ужо набралі

# ПЕРАД МІРАМ.

КЕЛЬН. 14.XI. Пачалі гатавацца да перагавораў аб міры.

БЭРЛІН. 15.XI. „Vorvä'ts“ друкуе ліст князя Ліхновскага да англіцкага народу. Ен просіць кіраўнікоў англіцкага народу ўжыць свой уплыў на грамадзянства, каб былі палегчаны варункі заміреньня Толькі гэткім парадкам магчыма перабудаваць Нямеччыну ў новае спакойнае дэмакратычнае гасударства.

БЭРЛІН. 17.XI. Урадовая „Deut. Alg. Zeit.“ наказавае гэткае палягчэньне варункаў замірэньня: лічба выдаваных кулямётаў зьмяняецца на 5 000, лічба самалётаў—на 300, займаныя непрыяцелямі часьці Нямеччыны на левым беразе Рэйна астаюцца пад упраўленьнем Нямеччыны, лічба выдаваных аўтомобіляў зьмяншаецца на 5 тысяч.

ЛЮГАНО. „Corierie della Sera“ наказавае з Парыжа: „саюзьнікі адмаўляюцца ад павароту Нямеччынай коштаў вайны.

ПАРЫЖ. Францускія і амэрыканскія войскі занялі форты Мэца.

---

да 9-х тысяч чалавек. Усе беларусы павінны паддзяржаць гэтую работу. Трэба таксама глядзець, каб адпаведальныя кіраўнікі арміі былі людзі пэўныя з нацыянальнага боку і, наагул, па магчымасьці ўсе афіцэры і унтэр-афіцэры павінны быць шчыра сьвядомыя беларусы. У арміі ня толькі павінна быць дысцыпліна і навучаньне ваеннае, але і нацыянальнае, гадаваньне як гэта ёсьць ува ўсіх іншых арміях. На нацыянальнае ўсьвядамленьне арміі мы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Гэткім парадкам цяпер у беларусаў павінны быць усе сілы ськіваваны на арганізацыю народных мас і войска.

## Агульнае сабраньне Беларускае Социялістычнае Грамады.

15 лістапада ўвечары адбылося агульнае сабраньне Віленскай арганізацыі Беларускай социялістычнай Грамады. Найважнейшымі пунктамі ў парадку дня былі: аб краёвай уладзе ў Беларусі і адносіны да мясцовых арганізацый левых социялістычных партый.

У справе краёвай улады ў Беларусі аднагалосна прынята гэткая рэзалюцыя: „Краёвай уладаю можа быць толькі орган утвораны з прадстаўнікоў усяго народу Беларусі. Гэткім органам ёсьць Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, выбраная Усебеларускім Зьездам, каторая дагэтуль стаіць у абароне інтарэсаў Беларусі і разьвівае выстаўленыя Зьездам задачы Беларускай дзяржаўнасьці. Апрача гэтага, папоўненая прадстаўнікамі ўсіх арганізацый краю, Рада найляпей адбівае ўсе кірункі думкі ў Беларусі.

Разам з гэтым Рада Рэспублікі ёсьць адзіны орган здольны абараніць край ад анархіі і давесьці яго да Устаноўчага Сэйму, на каторым і выліецца свабодная воля працоўнага народу.

Віленская група Беларускай Социялістычнай Грамады лічыць, што ўсякая вадка ў арганізацыі ўлады дзеліць сілы і згубна акажацца на асвабаджэньні змучанага даўгімі цярпеньямі беларускага народу.

Часова згаджаючыся, дзеля дабра народу, ісьці на супольную работу з буржуазіяй і клерыкаламі, мы клічам усе арганізацыі грамады — дзейнай работай на мясцох і прадстаўніцтвам у Радзе Рэспублікі яшчэ балей павялічыць шмат прадстаўленыя ў ёй социялістычныя элемэнты.

Жаданьне Менскага Губэрскага Земства захапіць Краёвую ўладу Беларусі ёсьць спробай узурпацыі і выклікае агульнае абурэньне“.

Справа адносін да левых социялістычных партый вызвала гарачыя спрэчкі. Некаторыя аратары казалі, што левыя социялістычныя партыі з кожных днём робяцца больш левымі, што яны мераць социялізм мілімэтрамі і г. п. Прынята рэзолюцыя супольнай працы, з социялістычнымі партыямі, як з правымі, так і з левымі. Дзеля гэтага некаторыя сябры Грамады вышлі вышлі з партыі.

## Адозва Менскага Камітэту Беларускай партыі Соцыялістаў-Рэволюцыянэраў.

**Час прабіў!**

**Далей чакаць нельга!**

Працоўныя Беларусы! аб сваёй будучыне Вы павінны дбаць самі.

Гатуйцеся пад штандарам Беларускай партыі Социялістаў - Рэволюцыянэраў.

Памятайце, што покуль у Радзе Першага Усебеларускага Зьезду (Рады Беларускай Н. Р.) ёсьць прадстаўнікі Вашы „Беларускія Социялісты-Рэволюцыянэры“ Вашы інтарэсы будуць абаронены.

Цяперашні мамэнт вельмі сур'ёзны. Нашы сілы невялікі. Мы Вас клічам: арганізовывайце свае сялянскія і работніцкія вясковыя, мястэчковыя і павятовыя Беларускія Рады; пасылайце сваіх прадстаўнікоў у Менск.

Памятайце, што настаў час, калі працоўны сялянскі народ, арганізаваны ў беларускія Рады павінен узяць усю ўладу ў свае рукі. Толькі такая народная ўлада зможа даць Вам тое, што Вы вякамі жадалі: зямлі, волі і шчасьлівай долі!

Не паддавайцеся на кліч паноў ды капіталістаў і не падымайце вайны з большэвікамі.

Мы верым, што яны на нас ня пойдуць вайной, як мы верым, што чужынцы не пасьмеюць нарушыць правоў беларускага народу на яго нацыянальнае семаазначэньне. Толькі трэба сказаць ім, што мы беларусы маем досіць свае сілы, каб справіцца з сваёй буржуазіяй.

Мы дабіваемся, каб усе жылі ў згодзе. Мы дабіваемся фэдэрацыі усіх народаў, усяго сьвету, як вольныя з вольнымі, як роўныя з роўнымі.

Няхай жыве социялістычная рэволюцыя!

Няхай жыве незалежная Беларусь!

Няхай жыве сусьветная фэдэрацыя!

**Менскі Камітэт Беларускай Партыі Социялістаў-Рэволюцыянэраў.**

## Авантура ці спроба ўзурпацыі.

Ад якогась часу Менская земства, ня маючы на гэта ніякага права, дабіваецца сабе краёвай улады ў Беларусі. Менскае земства дабіваючыся ўлады апіраецца на тым, што быццам яно балей социялістычна за Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Ня кажучы ўжо аб тым, што гэткі довад ня выдзержавае ніякае крытыкі, запраўды ёсьць зусім іначай. У Радзе Рэспублікі социялістычная большасьць, старшыня Рады с.-дэмакрат, прэм'ер міністэр с.-дэмакрат і габінэт міністраў будзе ўтвораны социялістычны.

Надовічы было сабраньне Менскай губ. земскай управы, на каторым былі рускія большэвікі і беларускія левыя социялісты-рэволюцыянэры. На гэтым сабраньні Беларускія социялісты-рэвалюцыянеры і рускія большэвікі запротэставалі проціў становішча земства і пакінулі сабраньня, пры гэтым беларускія соц. р. прачыталі дэкларацыю з протэстам проці іх палітычнай пазіцыі. Бел. социялісты-рэволюцыянеры маюць сваіх прадстаўнікоў ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэткім парадкам Менскае земства ня толькі ня мае ніякага права ўзяць краёвую ўладу ў свае рукі ды яго не прызнаюць і ня хочуць з ім працаваць мі мерныя ні левыя краёвыя социялісты, ні навет большэвікі. І зьяўляецца пытаньне, што такое дамаганьне Менскага земства, ці гэта спроба ўзурпацыі краёвай ўлады ці проста звычайная авантура, якіх бывае шмат.

## СТАТУТ

### Партыі Беларускіх Фэдэралістаў.

**Палітычная плятформа.**

1. Партыя Беларускіх Фэдэралістаў думае, што за ўвесь час свайго быцьця беларускі народ найбалей азначана і зусім законна выказаў сваю волю на 1-м Усебеларускім Конгрэсе 18—30 сьнежня 1917 г, у Менску.

(Разагнаты большэвікамі за антыбольшэвіцкі кірунак вялізнай большасьці Конгрэса. 1167 дэлегатаў з правам паста-

---

*І. Сербаў.*

## Аб беларускай народнай песьні.

(Гл. „Гоман“ № 90).

Большая Прачыста
Жыта засявае.
Меншая Прачыста
Жыта адсявае.
Сьвятое Зьдвіжэньне
Снапкі сабірае,
Снапкі сабірае
Да з поля шчышчае.
Ой, сьвяты Пакроў
Зямлю пакрыў
Жоўтым лістком,
Белым сьняжком.
Ой, сьвяты Зьмітрок,
Ох, вельма хіцер!
Ен і піва вара
І сыноў жэне;
Усё сыноў жэне,
І дачок аддае.
Ой, Кузьма-Дзем'ян
Піва расьпівае,
Гасьцей засылае.
Сьвяты Міхайла —
Той сьвяток асеньні,
Ен і з іх пасьледні.
Сьвятыя Варвары
Ночы ўварвалі.
Сьвятое Ражство
Радасьць прынясло,
Прынясла радасьць—
Сьвяты вечар!
Сьвятое Васільле
Разьвесяліла.
Сьвятое Кшчэньне
Ваду заксьціла,
Ваду заксьціла,
На сьвет пусьціла.
Сьвятыя Грамніцы
Сьвечы сукаюць,
Сьвечы сукаюць,
Усё іх пасьвячаюць!
— Гаспадарочак,
Наш сакалочак!
Ці ўпадабаў ты
Нашу песеньку,
Валачобную
Вялікодную?
Калі ўпадабаў,
То дары скарэй.
Ой, дары скарэй,
Не дзяржы гасьцей
Ой, мы-ж госьцікі
Да ня частыя.
Ой, мы-ж часьценька
Вам не дакучаем.
Ой, мы-ж і многа
Ды не вымагаем.
Мы ўсяго ў садочку —
Да раз на-разочку!
Гаспадарочак,
Наш сакалочак!
Бяры барылку
Ідзі па гарэлку.
Гаспадынечка —
Журавіначка!
Свае дзельца знай
Проціпечнае:
Скавародку ў печ,
Па яечкі ў клецы!
Пачастуй гасьцей,
Адпраўляй скарэй.
Ой, мы госьцікі
К вам ня частыя.
Мы-ж гэту ночку
Валачыліся,
Памачыліся.
Перайшлі сялцо —
Падарылі яйцо.
Перайшлі другое,
Ды згубілі й тое!
Гаспадарочак,
Наш сакалочак!
Ой, сходзі ты ў клетку,
Пагляздзі ў засечку,
Набяры пшаніцы
Ды ўсякай пашніцы
Поўнае лукошка,
Наверх сала крошку.
Наша торба чорна,
Няхай будзе поўна.
Механошы наш
Ня згібаецца,
Ня хістаецца,
Не карачыцца.

